Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 2. Вільня, 13 сакавіка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## За кім слова?

У першым нумары „Беларускага Дня“ ў перадавым артыкуле мы казалі: „гармовія брацкага сужыцьця абедзьвюх дэмакратыяў (беларускай і польскай) ад нейкага часу папсавалася“. У тым самым артыкуле далей мы казалі: „....ўжо вялікі час спыніць той шовіністычны чад, які забраўся ў супольную нашу хату і, як страшэнная атрута, забівае душу абодвых народаў і высцягвае з іх апошнія сілы, гэтак патрэбныя ім для змаганьня з супольным ворагам, барацьбу з каторым яны распачалі супольна дваццаць год таму назад, калі ён насіў яшчэ вопратку самадзяржаўнага царызму і каторы і цяперака зьяўляецца аднолькава страшным, як для нацыянальнай беларускай думкі, так і для ідэі польскай незалежнасьці, ня гледзячы на тое, што цяперака вопратку самадзяржаўнага ўсерасейскага цара ён перамявіў на вопратку самадзяржаўнага маскоўскага бальшавізму“.

Што гэта так, ніхто хіба з польскага грамадзянства, каго яшчэ ня зусім асьляпіў шовіністычны дым, пярэчыць ня будзе.

І вось цяперака, калі мы думаем аб тым, як магла-б ізноў гармовія гэнага сужыцьця наладзіцца, то павінны сказаць, што большая частка адказнасьці за сапсаваньне гэных даўнейшых добрых адносінаў ляжыць на польскім грамадзянстве, каторае, ў дэмакратычнай Польскай Рэспубліцы, нясе перш на перш адказнасьць за дзеяльнасьць сваіх урадаў, якія, недацэньваючы усей глыбі беларускага нацыянальнага адраджэньня, сваею палітыкаю, альбо, лепш кажучы, адсутнасьцю якой-небудзь палітыкі ў адносінах да беларусаў, стварылі нейкае балота і ў сужыцьцё абодвых народаў, перапутаных паміж сабою, як хвойкі з бярозкамі ў нашых родных лясох і жыўшых яшчэ нядаўна так згодна паміж сабою, як гэныя дзераўцы ў нашых пушчах — унясьлі гэную душную атмасфэру, якая проста атручвае іх.

І дзеля гэнага мы лічым, што першы крок у напрамку паляпшэньня гэных адносінаў павінен быць зроблены польскім грамадзянствам і апіраючымся на ім урадам.

Каб, робячы гэны крок, польскае грамадзянства не зрабіла ізноў памылак, якія рабіла дагэтуль няраз, яно павінна ведаць, што для паляпшэньня гэных адносінаў перш на перш патрэбна:

1) Каб беларус меў гэткую самую пашану, як кожны грамадзянін Польшчы. Пакуль кожнага амаль беларуса будуць путаць з бальшавіком, пакуль прызнаньне сябе за беларуса будзе выклікаць нясмачную усьмешку на губах прадстаўнікоў мясцовай адміністрацыі, пакуль беларус ня будзе мець магчымасьці сапраўды карыстацца з усіх тых правоў, якія яму дае польская конституцыя і пакуль гэнае права беларуса не ажыцьцявіцца фактычна — душная атмасфэра не асьвяжыцца.

2) Беларускія дзеці павінны мець школу ў роднай мове сваіх бацькоў.

Пакуль справа гэная ня будзе вырашава зусім шчыра ў тым сэнсе, што тамака, дзе беларускае сялянства жыве згуртованай масай і мае сапраўднае імкненьне да беларускае школы, каб гэная школа была там адчынена фактычна, — душная атмасфэра не асьвяжыцца.

3) Беларускае сялянства і наагул усё мясцовае сялянства павінна быць пэўным, што пры ажыцьцяўленьні зямельнае рэформы ніводзін кавалачак зямлі, ня пойдзе на патрэбы асадніцтва да тэй пары, пакуль кожная дробная сельская гаспадарка ў нашым краі ня будзе забясьпечана гэткім кавалачкам зямлі, які бязумоўна зьяўляецца патрэбным мінімумам, каб пракарміць гаспадара-земляроба.

Пакуль гэнага ня будзе — душная атмасфэра не асьвяжыцца.

Плян ажыцьцяўленьня зямельнае рэформы, намечаны міністрам Вітольдам Станевічам, калі ён шчыра і фактычна будзе праводзіцца ў жыцьцё, зможа сапраўды асьвяжыць трошкі гэную д у х а т у. Але спыніць зусім і наладзіць даўнейшыя добрыя адносіны абодвых народаў зможа толькі адначаснае і зусім шчырае вырашэньне ўсіх пытаньняў, закранутых у трох вышэй пералічаных пунктах.

Толькі зусім шчырае — братэрскае вырашэньне гэтых пытаньняў патрапіць праканаць беларуса, што ў сваім імкненьні да лепшае, сьвятлейшае долі ён не застаецца асобна, а мае побач брата ў асобе с е л я н і н а - п а л я к а, толькі тады ён паверыць у шчырасьць яго выклічу „за нашу і вашу волю“ і пойдзе разам з ім у цяжкую хвіліну змагацца за лепшую долю свае Бацькаўшчыны.

## АД РЭДАКЦЫІ.

*Усіх паважаных чытачоў № 1-га „Бел. Дня“ просім зьвярнуць увагу на зьмену нашага адрэсу і ўсю корэспондэнцыю да нас, як і падпіску, адрэсаваць гэтак:* Wilno, *Ціхая вул. № 4 (альбо Міцкевіча 15) кв. 20.*

## ДА БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСТВА!

Наша газэта — газэта незалежна-сялянская.

Яна будзе:

баараніць палітычныя правы беларускага селяніна;

бараніць народную беларускую культуру;

бараніць беларускую школу;

дапамагаць селяніну ў яго працы агранамічнымі, сельска-гаспадарчымі і юрыдычнымі парадамі;

дапамагаць селяніну ў яго барацьбе за зямельную рэформу;

змагацца з рознымі злачынствамі і гвалтамі над селянінам;

перасьцерагаць сялян перад рознымі палітычнымі спэкулянтамі і ашуканцамі;

высьвятляць усебакова жыцьцё селяніна-Беларуса, як у Польшчы, так сама і ў Раднай Беларусі.

Найлепей мы можам выканаць нашыя задачы толькі тады, калі нашую газэту селянін **будзе чытаць і сам пісаць, калі рэдакцыя будзе мець у розных кутках краю сваіх людзей: корэспондэнтаў, падпісчыкаў, сымпатыкаў.**

Сяляне! Трымайце сувязь з нашаю газэтаю,

выпісвайце яе,

пішэце корэспондэнцыі,

пашырайце **„БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.**

## Праўда аб „Нашай Долі“.

*(Гл. № 1 „Б. Д“.)*

„Наша Доля“ нарабіла шуму. Першы нумар у ліку 10.000 экзэмпляраў (5000 лацінкай і 5000 кірыліцай) разышоўся амаль увесь. Продажа газэты ў Вільні йшла так бойка, што газэтчыкі раз-за-разам прыходзілі ў рэдакцыю па новую порцыю, распрадаўшы ў працягу некалькіх мінут узятыя імі пробныя нумары. У Менску і паветах газэта таксама йшла добра. Хутка аб‘явіліся падпісчыкі і беларускія пісьменьнікі. Аднымі з першых супрацоўнікаў, што пачалі прысылаць свае творы, былі Ядвігін Ш., Якуб Колас і др. Другі нумар газэты грамадзянства спаткала так сама прыхільна, як і першы. Газэтчыкі за некалькі дзён прад выхадам яго прыносілі ў рэдакцыю грошы, каб забясьпечыць сябе за часу адтрыманьнем газэты. Падпісчыкаў з кожным днём прыбывала ўсё болей і болей, рэдакцыя з усіх канцоў Беларусі адтрымлівала шмат лістоў, у каторых іх аўторы горача віталі „Нашу Долю“. З кожным днём паміж газэтай і беларускім грамадзянствам завязваўся цясьнейшы вузел і популярнасьць газэты расла з кожным днём. Аб популярнасьці „Н. Д.“ сьведчыць, паміж іншым, той факт, што іншыя стацьці вывучываліся чытачамі напамяць. Я сам быў сьведкам, як адзін работнік у Вільні пераказваў другому ў памяці ўсю стацьцю пад загалоўкам „Старае Лякарство“.

# Беларуская Акадэмічная Конфэрэнцыя ў Менску

*(аб выніках яе працы).*

Як ужо вядома—гэтая Конфэрэнцыя з боку палітычнага бальшавіком прыйшлася не да смаку. Заместа таго, каб расхваліць іх палітыку, яна скампрамітавала іх перад заграклічнымі вучонымі,—бо выявіла глыбокае ніезадаволеньне і опозыцыю беларускае інтэлігэнцыі ў адносінах да маскоўскіх „апякуноў“.

Ня толькі з надворнага боку конфэрэнцыя гаварыла аб гэтай незадаволеннасьці беларусаў савецкаю ўладаю (дэманстратыўна ў салі ня было партрэту Леніна і чырвоных сьцягаў, а дэкарацыя была ў беларускім нацыянальным стылі). Самы дух і характар прамоваў сьмялейшых беларускіх культурнікаў сьведчыў, што камуністыя „пралічыліся“, што ўплыў іх слабы, што беларуская інтэлігэнцыя толькі і думае аб тым, як-бы найлепей адгарадзіцца ад уплываў Чырвонае Масквы. Адным словам, Конфэрэнцыя калі і мела палітычнае значэньне, то далёка ня тое, чаго чакалі камуністыя, а якраз адваротнае, што і дало повад латыскаму праф. Блесэ апублікаваць у рыскіх газэтах такія словы: „У Менску беларускі нацыяналізм мацнейшы, чымсь маскоўскі камунізм і перажыве яго“.

Што-ж датычыць вынікаў Конфэрэнцыі чыста культурных, навуковых, то яшчэ рана аб гэтым пісаць і гаварыць. Можна сказаць толькі, што за апошнія паваенныя часы Конфэрэнцыя гэтая—найважнейшы факт, які бязумоўна пакіне за сабою глыбокі сьлед у культурным адраджэньні Беларусі. Гэта відаць хоцьбы з таго, што ў працах Конфэрэнцыі бралі удзел найлепшыя мовазнаўцы і мастакі беларускага слова (Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, праф. Бузук, доцэнт Воўк-Левановіч, Я. Колас, Я. Купала і іншыя).

Апрача беларусаў была прадстаўлена досыць і заграгічная навука: ад Расеі — праф. Растаргуеў, праф. Гарчынскі і А. Сержпутоўскі, ад Украіны—праф. Німчынаў, ад Польшчы—праф. Голомбэк, ад Нямеччыны—праф. Фасмэр, ад Літвы—праф. Біржышка, ад Латвіі—поэт Ян Райніс і праф. Блесэ.

Акадэмічная конфэрэнцыя цягнулася цэлы тыдзень ад 14-га па 21-е лістапада і сабрала шмат цікавага матар'ялу аб беларускай мове і рэформе правапісу. Па мове ў праграму конфэрэнцыі былі уключаны наступныя даклады: „Сучасны стан дасьледаваньня беларускае мовы“ (дакл. Некрашэвіч) і „Беларуская мова сярод іншых славянскіх моваў“ (праф. Бузук).

У дакладзе Некрашэвіча разгледжаны былі ўсе друкаваныя і рукапісныя навуковыя працы аб беларускай мове за апошнія пяць гадоў. Асаблівае ўражаньне зрабіла справаздача аб працы слоўнікавай камісіі Інстытуту Беларускае Культуры, з якое відаць, што беларуская мова ўжо перарасла народныя дыялекты (гаворкі) і стала літэратурнаю моваю, якая мае права заняць роўнае месца сярод іншых славянскіх моваў. У наступным дакладзе праф. Бузука асабліва выразна выступіла самастойнасьць беларускае мовы. Тэорыя Бузука касуе падзел на мовы старэйшыя (расейская) і малодшыя (беларуская і украінская), чаго ў запраўднасьці ня было, але што стварыла расейская навука ў угоду расейскай велікадзяржаўнасьці.

Але цэнтральным пунктам працы конфэрэнцыі былі пытаньні рэформы беларускае азбукі. Аб гэтым былі зроблены два даклады: Я. Лёсікам і праф. П. Растаргуевым. Я. Лёсік прапанаваў наступную рэформу азбукі: 1) гукі „дз“ і „дж“ пісаць праз „д“ і „ж“ з значкамі зьверху (птушачкамі), 2) гук „г“ як і ў украінскай мове, азначыць хвосьцікам справа, паднятым угору, 3) замест „й“ увесьці (j), 4) ётаваныя ё, ю, я пісаць праз jo, ju, ja. Апрача таго, Я. Лёсік прапанаваў: выкінуць літару „е“ і замяніць э адваротным (є), а таксама выкінуць літару „ы“ і замяніць яе „и“.

П. Растаргуеў у сваім дакладзе выступіў за рэформу беларускай азбукі ў наступным: 1) „дз“

---

Ня меншай популярнасьцяй карысталіся і вершы, друкаваныя ў „Нашай Долі“. Гэная вялікая популярнасьць „Н. Д.“ зьвярнула на сябе ўвагу царскіх чыноўнікаў, і дзеля таго, што газэта, каторая бязьлітасна крытыкавала тагочасны лад і нікчэмную палітыку мясцовых расейскіх валадароў,—ім не падабалася, яны аб'явілі вайну „Н. Д.“ і на газэту пасыпаліся кары. 3-ці нумар „Н. Д.“ ужо сконфіскавалі, так што толькі некалькі дзясяткаў экзэмпляраў яе ўбачылі сьвет Божы. З той пары бяз мала кожны нумар „Н. Д.“ спатыкала або конфіската, або штраф. Газэта такі трывала. Навучаныя горкай доляй, мы часьць выданьня адразу з друкарні вывозілі ў прыватныя кватэры і толькі другую частку прывозілі ў рэдакцыю, дзе на яе ўжо чакала паліцыя. Схаваныя гэткім спосабам нумары мы прадавалі потым па павялічанай цане, так што некалькі часу, ня гледзячы на конфіскацыю, маглі такі зьвясьці канцы з канцамі. Але пад канец і паліцыя дагадалася. Яна пачала конфіскаваць газэту ў самой друкарні і, нарэшце, на Яна Тукеркеса налажылі штраф і прыцягнулі яго да суду. А побач з гэным, баючыся ўплыву „Нашае Долі“, мясцовыя ўлады выдалі цыркуляр, у якім гаварылася, каб усе нумары «Н. Д.» конфіскаваць, як газэту „исключительно вреднаго направленія“; так гаварылася ў цыркуляры. Стала ясна, што пры гэткіх варунках газэту выдаваць немагчыма. Папаўшы ў „гісторыю“,—Ян Тукеркес адмовіўся даваць грошы. На пасяджэнь-

і „дж“ ад‘значаць адпаведнымі літарамі сэрбскага альфабэту; 2) выкінуць „й“ і ўвесьці ў беларускую азбуку „j“ у тых выпадках, у якіх прапанаваў яго ўжываць Я. Лёсік.

Для далейшага больш дэтальнага апрацаваньня пытаньняў рэформы азбукі была створана з членаў конфэрэнцыі асобная камісія, якая ў выніку свае працы прыйшла да наступных конкрэтных рэзультатаў: 1) „дз“ і „дж“ азначаць сэрбскімі літарамі, 2) выкінуць „й“ і замяніць яго „j“, 3) увесьці напісаньне „ja, je, jy, jo“ заместа я, е, ю, ё, у пачатку складу перад галоснай, 4) літары я, е, ю, ё, заставіць для азначэньня мяккасьці зычнай: нясу (ньясу), сёлы (сьолы); 5) іншыя пункты рэформы адхіліць.

Частка з членаў конфэрэнцыі адносна ўвядзеньня ў беларускую азбуку „j“ і застаўленьня пры гэтым „я, е, ю, ё“ (для памягчэньня зычных) падала заяву, знаходзячы проект камісіі мала палягчаючым беларускую азбуку. Заява гэтая аднак на конфэрэнцыі не разглядалася.

У зьвязку з рэформай беларускае азбукі, група сяброў конфэрэнцыі досіць значная і ўплывовая, падала заяву аб увядзеньні на Беларусі лацінскае азбукі. Падаўцы матывавалі сваю заяву тым, што па: 1) некаторыя народы ў цяперашні час адмаўляюцца ад сваіх азбук і ўводзяць лацінку (цюркскія і каўкаскія народы); па 2) што некаторыя беларускія выданьні ўвесь час друкаваліся і друкуюцца лацінкай (частка віленскіх выданьняў) і 3) што ў цэлым Савецкім Саюзе пытаньне аб увядзеньні лацінкі за апошнія часы стала актуальным і абгаварваецца ў навуковых колах.

Гэтая разумная думка, ажыцьцяўленьне якое адразу вырашае пытаньне рэформы беларускае азбукі тым ня менш не разглядалася на конфэрэнцыі, бо камуністыя далі зразумець вучоным, што не пацерпяць рэвалюцыі беларускае азбукі.

Што датычыць рэформы правапісу, то па гэтаму пытаньню разгарнуліся вострыя спрэчкі і да адпае думкі конфэрэнцыя не прышла. Як відаць з усяго — конфэрэнцыя ня была падрыхтована, як сьлед, і дзеля гэтага значэньне яе абмяжоўваецца толькі тым, што яна паставіла некаторыя пытаньні, абудзіла думку, сабрала матар‘ялы, якія могуць быць выкарыстаны ў будучыні.

Падаў *В.*

# ВІХАР.

Сьвішча вецер, глуха стогне,
Плача дзецем ля дамоў —
То паслабне і заглохне,
То ўзмацуецца ізноў.

Штосьць жудоснае чуваці
Ў гэтым гымне-віхуры,
Бы па сыну плача маці,
Пахаваўшы без пары.

То скрозь гук страшэнны, дзікі.
Ледзь чуваць злавешчы сьмех,
То пад тон ліхой музыкі,
Рве салому з бедных стрэх.

З сілай дзьмухае ў прасторы,
Сьнег ўздымае, нібы рой,
Быццам хвалі ў грозным моры
Неспакойнаю парой.

Гэй ты, віхар, гэй магутны!
Сіл ня трацца ты, ня гуляй —
Край мой родны, край пакутны.
Лепш з нядолі вызваляй!

Дзьмухані, скрышы, зруйнуй ты
Плот—жалезную сьцяну,
Разарві сталёвы путы,
Вызваль з гора старану!

М. Васілёк.

---

ні рэдактарскай колегіі, калі разглядалася пытаньне аб тым, як быць далей, Ян Луцкевіч абязаўся дастаць грошы і гэтак мы пастанавілі газэту выдаваць далей, перамяніўшы толькі тон.

Але з перамены тону ня вышла нічога. Пробны нумар, у якім мы зрабіліся ціхімі і спакойнымі, таксама быў сконфіскованы. Чыноўнікі прычапіліся да слова „ваяваць“ у адным з вершыкаў, дзе яно азначала звычайную барацьбу, змаганьне,—растлумачыўшы яго як прызыў да паўстаньня з аружжам у руках. Тады мне стала ясна, што „Нашай Долі“ ўжо падпісаны прыгавар і дні яе зьлічаны і ніякая перамена тону нічога ўжо не паможаць. І дзеля таго, ня гледзячы на намовы братоў Луцкевічаў, я зрабіў заяву ў газэтах, што „Наша Доля“ сваё істнаваньне спыняе. Гэтак на 7-м, здаецца, нумары, задушаная рукамі расейскага ката, скончыла сваё істнаваньне „дзіця свабоды“, першая беларуская часопісь „Наша Доля“.

Вось і ўсё, што расказана аб „Нашай Долі“, тым, хто фактычна кіраваў ёю.

І толькі вузкай гурткоўшчынай, разьбіўшай беларускае грамадзкае жыцьцё ў Вільні да апошняй магчымасьці, можна вытлумачыць тое што так незаметна ў мінулым годзе сьвяткаваўся 20 гадовы юбілей беларускае прэсы, на якім ня было нават самога вінавайцы гэтае ўрачыстасьці.

*К.*

## Некалькі словаў да братоў пісьменьнікаў.

Кожнаму беларускаму пісьменьніку вядома, якія тут на Захадзе трудныя для яго варункі працы.

Ня гледзячы на тое, што ёсьць ужо не адна тут беларуская газэта (як гэта было 20 гадоў назад, у часы „Нашае Долі" і „Нашае Нівы"), літэратурнае поле нашае блізка што проста ляжыць папарам, чакаючы плуга сваіх гаратаёў. Ясьней кажучы, дасюлешнія беларускія часопісі ў Вільні, як і ўвесь наш нацыянальны рух тутака, гэтак захоплены палітыкаю, што аб культурнай працы ўмеюць толькі голасна крычаць, а ў сутнасьці нават вельмі няшмат на сваіх старонках удзяляюць месца літэратурным творам. Адны з гэтых часопісяў, утаропіўшы вочы проста на Ўсход, стараюцца знайсьці гэткую беларускую пісьменнасьць, якая лічылася-б, як той казаў, „прыгожай па Луначарскаму", другія ня могуць шырока паставіць літэратурны куток па скупасьці свайго разьмеру, трэція — свой літэратурны падвал запаўняюць зусім бязграматнымі перакладамі (напрыклад апублікованы нядаўна ў аднэй часопісі пераклад Міцкевічавых „Дзядоў". Гэткі бязграматны пераклад ня толькі не дае ніякай карысьці беларускаму народу, але вельмі крыўдзіць і самога аўтора, робячы з твору вялікай поэтыцкай вартасьці нейкі паскудны адбітак яго).

Ведама таксама, што бяда з пісьменьнікам, калі ён робіцца цалком і бяз вынятку якім-небудзь чыста-партыйным трубадурам. Такі тып беларускіх пісьменьнікаў шпарка нарастае ў Савецкай Беларусі, дзе кожная часопісь, родзячыся на сьвет, мусіць голасна зазначыць у прадмове, што яна знаходзіцца пад кіраўніцтвам кампартыі.

І тут таксама вузкая партыйнасьць кіраўнікоў беларускае прэсы даведзена ўжо да абсурду. Палітыкаў ня можам ужо й палічыць—пісьменьнікаў як быццам нідзе і ня відаць. Ці-ж ня дзіўным выглядае зьмяшчэньне ў 1926 годзе перакладу з расейскае мовы мастацка-поэтычнага твору „Дванаццаць" на шпальтах гумарыстычнае часопісі „Маланка"?

Гэты выпадак выразна сьведчыць, што беларускаму прыгожаму пісьменству зусім дасюль не хапала месца.

Вось-жа дзеля гэтага кожны наш пісьменьнік можа шчыра вітаць зьяўленьне на сьвет тыднёвіка „Беларускі Дзень" пад рэдакцыяй вэтэрана нашае прэсы, чалавека сьветлых традыцыяў „Нашае Долі" і бязумоўнага літэрацкага таленту з высокім об'ектывізмам.

Як нам думаецца, „Беларускі Дзень" патрапіць даць месца кожнаму беларускаму мастацкаму твору і, як беспартыйная часопісь, з належнай пашанай аднясецца да індывідуальных асаблівасьцяў кожнае маладое беларускае літэратурнае сілы, пераходзячы да парадку дня над яе палітычнымі перакананьнямі.

Рэч зразумелая, што ня ўсе Беларусы павінны хапацца за пяро і за ўсякую цану старацца быць поэтамі. Гэта ніколі й немагчыма. Але той, хто адчувае ў сабе прыродныя да гэтага здольнасьці, павінен не закопваць іх на векі ў зямлю, а тварыць вольна і сьмела.

А „Беларускі Дзень" можа служыць яму трыбунаю, даючы яму месца ў сваім літэратурным аддзеле і спагадаючы якнайшырэйшаму разьвіццю маладых беларускіх талентаў.

*Краўцоў Макар*

# Ад Рэдакцыі.

Рэдакцыя газэты „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ" мае арганізаваць

**СЕТКУ СВАІХ КОРЭСПОНДЭНТАЎ на провінцыі.**

Дзеля гэтага зьвяртаемся да ўсіх, хто можа пісаць, каб прыслалі свой адрэс, імя, прозьвішча (да ведама Рэдакцыі) і варункі, на якіх згодны супрацоўнічаць у газэце. Пажадана пробная корэспондэнцыя.

## Процібальшавіцкі беларускі рух на Усходзе.

II.

*Нездаволеннасьць сялянства.*

Лістападаўцы, аб якіх мы пісалі ў папярэднім артыкуле, тым і небясьпечны для савецкае ўлады, што яны выяўляюць настроі і думкі шырокіх масаў беларускага сялянства і агульную нездаволеннасьць вёскі. Бо хто-ж такія лістападаўцы? — Гэта-ж усё дзеці сялян, або сяляне ад сахі, якія на сваёй уласнай скуры спрабавалі ўсе дабрадзействы савецкіх камісараў. Таму бальшавікі так і перапуджаліся жменькі арганізаваных байчакоў і запакавалі іх надоўга ў вастрог. Але гэтым процібальшавіцкіх рухаў ня спыніш, бо варункі жыцьця, грунт для руху, застаецца, а грунтам для сялянскага — процібальшавіцкага руху зьяўляецца цяжкое, проста катастрафічнае палажэньне вёскі, якую бальшавікі сваёю палітыкаю ажабрачылі. Што гэта так, а ня йначай, аб гэтым сьведчыць хоць-бы тая пастанова аб перасяленьні мільёну беларусаў у Сыбір, якую мы падаем у сягодняшнім нумары. Каб нам не закінулі, што мы аднабока разглядаем становішча сялян у савецкай Беларусі і бачым толькі чорныя бакі савецкага жыцьця — паслухаем што гавораць часамі камісары паміж сабою. Вось перад намі яшчэ зусім сьвяжуткая прамова самога „ўсебеларускага старасты" Чарвякова, якую ён сказаў у Маскве на III сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу С. С. Рэспублік. Паслухайце, што ён кажа:

Становішча нязвычайнай беднасьці мы яшчэ не перамаглі. 30 проц. сялян у гэтым годзе ня будуць мець свайго хлеба да новага ўраджаю. Мякіна

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## На канец зімы.

Праца земляроба — гэта праца сэзонная; кожны сэзон, кожны кавалак часу мае свае пільныя работы, выпаўненьне якіх у пару варункуе добры рэзультат гадавое працы земляроба. Адно запушчэньне, адзін недагляд, адно заспаньне імсьціцца на земляробе цэлы год. Нажаль гэту старую земляробскую праўду не адзін земляроб лёгкаважыць або не дацэньвае яе важнасьці, не зьяўляючыся даволі выпрабаваным спэцыялістым.

У цяперашнюю пару, гэта знач. у канцы лютага і пачатку сакавіка, можа асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на выпаўненьне ў сваім часе пільных цяперака работ, а гэткімі зьяўляюцца вось такія:

Перш за ўсё трэба падумаць аб тым, каб пасеяць белую або чырвоную канюшыну па жытах, паколькі гэткае ўсяваньне ўходзіць у гаспадарскі парадак. Усяваньне канюшыны ў азімыя шмат пэўнейшае, як у яравыя, таму што ўсеяная цяпер у азімыя дае гарантыю куды пэўнейшых абыходаў, маючы для сябе даволі зімовае вільгаці, якой часта не хапае пры ўсяваньні канюшыны ў яравыя. Сеяць канюшыну ў азімыя трэба ў першых днёх сакавіка, выбраўшы для гэтае работы ясны і бязьветраны дзень. Можна сеяць канюшыну нават і на сьнег, паколькі ён не пакрыты замерзлаю скарынкаю, на якой канюшына магла-б быць зьвеяна ветрам. Па мягкім пушыстым сьнезе сеяньне канюшыны — рэч вельмі добрая і мэтазгодная.

Тое самае адносіцца і да сарадэлі, як падсеўкі ў жыта, паколькі ня сеем яе радамі. Сеяць сарадэлю рукамі трэба ў пачатку сакавіка, а таму што сарадэля звычайна родзіць на лягчэйшых палёх, якія шпарка абсыхаюць, і засеў сарадэлі лёгка можна зрабіць. Гэты раньні засеў сарадэлі зьяўляецца нязьмерна важным, кардынальным варункам удачы гэтага сярод плоду. Земляробы, якія ня маюць у гэтым дасьведчаньня, звычайна баяцца сеяньня сарадэлі і канюшыны па сьнезе, што зьяўляецца забабонам, дык на гэткую спробу кожнага якнайэнэргічней намаўляем.

Для земляробскіх мэтаў раней выкарыстоўвалі ў працягу пэўнага раду гадоў натуральныя багацьці грунту, а затым пераносіліся на іншыя абшары. У лясных мясцовасьцях секлі і палілі лес, у сьцяповых мясцовасьцях палілі траву, а зямлю таксама пераварачвалі на поле. Гэты спосаб гаспадараньня можна й сягоньня спаткаць у незаселеных краёх. Пасьля сусьветнае вайны і наш земляроб гэткім спосабам пачынаў вырабляць зямлю.

Шпаркае засяленьне абшараў, а ў сувязі з гэтым і павялічаная патрэба ў спажыўных прадуктах змушае земляроба падняць прадукцыйнасьць яго палёў і сенажацяў. Тады ўжо не хапае ўраджаю 2—3 зярняты замест пасеянага аднаго — чалавечы розум шукае спосабаў павялічыць ураджай. Ад таго часу датуецца паўстаньне і разьвіцьцё земляробскае веды.

Дзеля таго, што земляробства існуе ад пачатку чалавецтва, дык можна было-б такі дапушчаць, што земляробская веда, ў параўнаньні з іншымі ведамі, зьяўляецца найбольшаю ў сваім разьвіцьці і што земляробы сягоньня найбольш прафэсіянальна падгатоўлены да працы на ральлі. Але прыглядзьмася да справы. Ува ўсіх народаў земляробы зьяўляюцца найболей закінутымі ў сэнсе асьветы і найгорш прыгатоўленымі ў сваёй прафэсіі. Найбольшы процант людзей, якія ня ўмеюць пісаць і чытаць, сустрачаем усюды сярод земляробаў. Чаму гэта так? Дзе крыецца прычына гэтага стану справы?

Чалавека заўсёды прыцягвалі і сягоньня пры-

---

і іншыя сурагаты зьяўляюцца сталым госьцем у сям'і беларускага селяніна. Боты носяць працоўныя Беларусі толькі ў вялікае сьвята і г. д.

Што такое крыецца пад „і гэтак далей“ Усебеларускі стараста не сказаў.

Але вось перад намі словы таго-ж самага Чарвякова, сказаныя ім 4 чэрвеня 1926 г. на паседжаньні прэзыдыуму Ц. В. К. саюзу С. С. Р. у Маскве. На гэтым паседжаньні Чарвякоў, як калісьці губэрнатар, павінен быў даваць адчот аб сваёй працы і мусіў гаварыць больш-менш праўду свайму начальству. Вось што ён між інш. тады казаў:

„Нездаволенасьць сялян выяўляецца ў наступным: а) папрокі ў вострай форме на нізавы савецкі апарат (п'янства савецкіх чыноўнікаў, цяганіна, бюракратычнасьць, нядбайнасьць да справы, грубасьць, растраты, хабарніцтва, пратэкцыянізм), слабасьць коопэрацыі (растраты), б) маруднасьць правядзеньня землеўпарадкаваньня, невыстарчальны водпуск лясных матар'ялаў, апалу, скаргі на лясьнікоў за хабарніцтва, в) невыстарчальнасьць пашы і сенажаці, г) слабасьць асьветнай і культурнай работы, **недахоп школьнае сеці** (на вёсцы задавольнена толькі 30% дзяцей), **падручнікаў, мэдыцынскай і вэтэрынарнай дапамогі**, д) **вельмі высокія цэны на прамысловыя тавары і сельска-гаспадарчыя машыны, скаргі на недахоп прамысловых тавараў і г. д.**“ (глядзі часопіс „Полымя“ № 5—1926 г.). Дадамо да ўсяго гэтага — падаткі, якія аблічаны так, каб селяніну нічога не засталося.

У другім месцы таго-ж самага адчоту чытаем:

„На душу сельскага насяленьня ў Беларусі прыходзіцца каля 1,7 дзесяціны зямлі, з якіх каля 0,3 прыпадае на балота. Глебы Беларусі бедныя і неўраджайныя. Дзеля гэ-

цягваюць вялікія зборы людзей. У гарадох, у больпіым зборы людзей, пры ўзаемных уплывах, разьвіваўся творчы чалавечы розум. Тут паўставалі першыя школы, навука, мастацтва і адсюль толькі яны пушчалі свае праменьні на вёску. Вёска ў гэтых варунках пэўна-ж павінна была заставацца заўсёды ззаду. Земляробская вытворчасьць апіраецца, галоўным чынам, на дзейніках прыроды, адпаведна выкарыстаных земляробам. Зерне кінутае ў ральлю толькі тады дасьць плод, калі для жыцьця свайго знайдзе неабходныя варункі разьвіцьця, г. знач. належную колькасьць цяплыні, сьвятла, вады, паветра і іншых карміцельных элемэнтаў. Дык, значыцца, плод адтрымваем у рэзультаце супрацоўніцтва трох галоўных дзейнікаў: расьліны, грунту і клімату. Абгаворым гэтыя дзейнікі.

Адпаведную, датарнованую да клімату і грунту расьліну, шляхам гадоўлі, земляроб можа адтрымаць, на грунт таксама можа ўплываць, вядучы адпаведную вырабу і гнаеньне, але кліматычныя варункі ад земляроба зусім не залежаць. А, як ведама, колькасьць цяплыні, сьвятла і вады рашае аб ураджаі. Нарэшце расклад дзейнікаў у паасобныя гады зьмяняецца. Ці можа земляроб прадбачыць хоць - бы прыблізна, як складуцца кліматычныя варункі ў чародным годзе? Земляроб ведае, што ён павінен вырабіць зямлю і засеяць — і ён сее, але які зьбярэ ўраджай — ён гэтага прадбачыць ня здолее. А ці гэтак ёсьць у іншых галінах гаспадарчае працы? Разгледзьма прыклад з галіны прамысловае вытворчасьці. Кіраўнік прамысловага закладу можа аблічыць наперад на аснове колькасьці сыр'я, зрасходаваных у часе вытворчасьці дадатковых матар'ялаў, а таксама жывое і мэханічнае працы,—колькі адтрымае канчальнага прадукту. Наколькі-ж у цяжэйшых варунках працы знаходзіцца земляроб!

Земляробства складаецца з двух вялікіх аддзелаў: расьліннае вытворчасьці і жывёльнае вытворчасьці. Расьлінная вытворчасьць мае справу з грунтам і яго свойствамі: мэханічнаю вырабаю зямлі, гнаеньнем, гатункамі карысных расьлінаў, прыладзьцзем і абмалочваньнем; жывёльная вытворчасьць апіраецца на расах хатніх жывёлаў, карміленьні іх і выкарыстоўваньні: мяса, клустасьці, малака, воўны і інш. Жывёльная вытворчасьць — гэта толькі далейшая зьмена зямельных пладоў у мяса, клустасьць і інш.

У зьмене гэтай задача земляроба палягае на тым, каб таньнейшыя на рынку плады палёў і сенажацяў ператварыць у даражэйшыя прадукты, якія яшчэ пакідаюць на месцы ў гаспадарцы гэтак цэнны і неабходны гной.

Абедзьве вытворчасьці: расьлінная і жывёльная павінны быць цесна зьвязаны і злучаны адна з аднэй, і тут ужо ўваходзіць новая аснова вытворчасьці, а ласьне гаспадарчая арганізацыя.

## Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

У канцы ліпня месяца мінулага 1926 году пачало працаваць гэтае вялікай вагі нашае нацыянальна-культурнае таварыства.

Дасюль яно мае больш як 50 сваіх аддзелаў (гурткоў) у провінцыі, галоўным чынам, у Віленшчыне.

Аснаўная задача Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры — разьвіцьцё беларускага народу ў культурнай і эканамічнай галіне яго жыцьця. З гэтай мэтаю Інстытут маецца вясьці самую шырокую дзейнасьць, як: а) ладжаньне й вядзеньне ўзорных гаспадарак, дасьвядчальных станцыяў, пасекаў, варстатаў, залажэньне складаў земляробскіх машынаў і гаспадарчых вырабаў; б) закладаньне і вядзеньне майстроўняў для земляробскіх і пасечных прыладаў і пераробак; в) вядзеньне зямельных мэліорацыяў; г) падтрымліваньне разьвіцьця садоўніцтва і гародніцтва; д) арганізацыя экскурсіяў дзеля азнаямленьня з земляробствам, пчалярствам, гародніцтвам,

---

тага матар'яльнае становішча беларускага селяніна застаецца вельмі цяжкім... Прад намі паўстае проблема перасяленьня, як адзін з выхадаў з над'звычайна цяжкага становішча".

Да перасяленьня ў Сыбір- бальшавікоў змушае і безработцьце, аб якім Чарвякоў кажа:

„Нашу работу ў галіне гаспадарчай прыходзіцца весьці ва умовах: 1) Зямельнага перанасяленьня, 2) Эканамічнага развалу нашых мястэчак. Паводлуг нашых падлікаў, беларускае сяло дае да 30% лішкаў рабочае сілы, мястэчкі эканамічна аслабелыя, ня маючы эканамічнага грунту для свайго разьвіцьця, даюць агромны лік беспрацоўных".

Лічым, што досыць нам выпісак з прамоваў „Усебеларускага старасты", каб намаляваць сабе жудасны абраз жыцьця селяніна-беларуса каля Менску і зразумець запраўдныя, глыбокія прычыны антыбальшавіцкага руху ў Б. С. С. Р., які за апошнія часы прымае ўсё больш і больш вострыя характар і выліваецца то ў формы тэрору (забойства савецкіх камісарчукоў, камсамольцаў, корэспондэнтаў савецкіх газэт і г. д.) — або у стыхійныя бунты, як гэта нядаўна мела месца ў районе Калінкавіч, дзе сяляне каля 100 чалавек забарыкадавалі палатно чугункі і пабілі савецкіх агэнтаў, якія зьбіралі падаткі (у зьвязку з гэтым было арыштована больш як 50 чалавек, палавіна якіх адаслана ў Менск, у Г. П. У., а палавіна пасаджана ў барысаўскі вастрог). А там, дзе ёсьць здольныя і разумныя сяляне, антыбальшавіцкі рух прымае арганізованыя формы падпольнага рэвалюцыйнага руху проціў саветаў. Сялянская нездаволеннасьць, якая, як бачым, паўстае на Ўсходзе, дзякуючы эканамічным прычынам і палітычнаму бяспраўю, змушае варушыцца і інтэлігенцыю, аб якой пагаворым другім разам.

*Мінчук.*

малочнай гаспадаркаю, народнай прамысловасьцю, рамёсламі і тэхнікаю; е) пасыланьне інструктароў, даваньне парадаў і прафэсіянальнай падмогі, як у навуковым, так і ў матар'яльным сэнсе; ж) сяброўскія зьезды; з) ладжаньне выставак, паказальняў, конкурсаў з выдачай нагародаў; і) ладжаньне лекцыяў, курсаў, гутарак і дыскусійных сходак, тэатральных прадстаўленьняў і концэртаў; к) выдаваньне і распаўсюджваньне кніжак, брашураў і пэрыядычных часопісаў аб дзейнасьці Інстытуту; л) закладаньне і утрымліваньне біблітэкаў, чытальняў, кнігарняў, музэяў і народных дамоў; м) адчыняньне і утрымліваньне вышэйшых, сярэдніх, ніжэйшых і пачатковых навуковых закладаў, як прафэсіянальных, так і агульнаадукацыйных, а таксама настаўніцкіх курсаў і сэмінарыяў; н) вядзеньне навуковых і статыстычных досьледаў, пробаў і дасьведчаньняў над паасобнымі пытаньнямі ў межах компэтэнцыі Інстытуту.

Тымчасам з 21 мінулага лютага Інстытутам вядуцца Беларускія Коопэратыўна - Гандлёвыя Курсы ў Вільні. Курсы маюць даць сваім слухачом практычную веду, як весьці коопэратывы ці проста прыватныя крамы, і працягнуцца яны тры месяцы—да 20 траўня с. г.

Месьціцца Інстытут у Вільні на Завальнай вуліцы № 6 кв. 5.

Закладчыкамі Інстытуту, паміж іншымі, былі сэнатары Ўласаў і Кржыжаноўскі, а таксама малады беларускі эканаміст, аўтор кнігі „Асновы Грамадзкай Гаспадаркі" (Вільня 1926), А. Більдзюкевіч, які зьяўляецца Старшынёй Інстытуту і Дырэктарам вышэйназваных курсаў.

Кожнаму Беларусу застаецца толькі пажадаць Інстытуту дасягненьня яго высокіх культурніцкіх мэтаў, а кожнаму Беларусу-спэцыялістаму прылучыць сваю прафэсіянальную веду да гэтай беларускай культурнай працы.

## Адбудова гаспадарак у былой прыфрантовай паласе.

Газэты пішуць, што ў пачатку месяца лютага сёлетняга году ў Віленскай Ваяводзкай Установе адбылася конфэрэнцыя па пытаньню аб адбудове зьнішчаных гаспадарак. Нядаўна па ініцыятыве Віленскага Ваяводы пачаўся цэлы рад працаў з мэтаю правясьці ў жыцьцё прынятыя вышэйспомненаю конфэрэнцыяй пастановы. Зьяўляецца патрэба якнайхутчэйшае адбудовы каля 4.000 гаспадарак у найбольш зьнішчанай паласе. Дзеля таго, што гэтыя гаспадаркі пераважна ляжаць у бязьлеснай мясцовасьці і будаўляны лес можна прывозіць толькі з мясцовасьцяў, паложаных адтуль за якіх 40-50 кілёмэтраў (кілёмэтр каля 9/10 вярсты), а кошты перавозкі пры нашых дарогах былі-б вельмі вялікія, дык проектуецца выкарыстаць пры адбудове болей даступныя матар'ялы і ставіць глінабітныя будынкі.

У сувязі з гэтым Дырэкцыя Публічных Работаў пры падмозе быўш. інструктара глінабітнага будаўніцтва п. Няваровіча апрацоўвае параўнальныя каштарысы на адбудову хатаў 4-х узораў: 1) з дзерава, 2) з цэглы, 3) глінабітных і 4) спосабам ужываньня цэмэнту з фашынай. Разам з тым апрацоўваецца тып глінабітнае хаты, якая мае служыць узорам на інструктарскіх курсах глінабітнага будаўніцтва, што маюць быць адчыненымі ў хуткім часе. Курсы гэтыя вызначаюцца для сялян зьнішчаных ваеннымі падзеямі воласьцяў і будуць цягнуцца каля 2-х тыдняў. Асобы, якія скончаць курсы, адтрымаюць правы інструктароў глінабітнага будаўніцтва.

Такім чынам, балючая справа адбудовы сядзібаў нашага зруйнованага гаспадарча сялянства, як бачым, рухаецца з месца і застаецца толькі пажадаць, каб бяз лішняе канцалярскае валакіты яна падыйшла проста да свае конкрэтнае мэты.

Глінабітныя будынкі мала ў нашым краі вядомыя, а тымчасам яны ў бязьлесных мясцовасьцях могуць будавацца з меншымі затратамі, як дзеравяныя, дый куды бясьпечнейшымі, як апошнія, зьяўляюцца ў пажарным сэнсе, бо будынкі гэтыя агнястойкія.

Паводле апошніх вестак мясцовае прэсы, ёсьць проект, блізкі да рэалізацыі, каб бэтонныя акопы і іншыя палявыя збудаваньні, пакінутыя ў нас вайною, былі касованы сапёрнымі войскамі.

Адбудова прыфрантовай паласы на абшары 20-ёх з нечым воласьцяў мае быць закончана ў бягучым годзе.

Крэдыты, якія будуць давацца на агнястойкія будынкі, разложацца па 12 гадоў з пабіраньнем 5 процантаў у год.

## Трэба купляць толькі зравідованае і ацэненае насеньне.

Віленскія земляробскія арганізацыі зьвярнуліся да тых, хто прадае і набывае земляробскае, гароднае і лясное насеньне, з заклікам вымагаць ацэнкі і зравідаваньня гэтага насеньня на Віленскай Станцыі Ацэнкі Насеньня. Робленыя на гэтай Станцыі равідаваньні якасьці насеньняў у шмат якіх выпадках выказваюць нізкую сілу абыходу, вялікую засьмечанасьць і вільготнасьць іх. Збажовае насеньне вельмі часта мае малую вагу гэктолітра.

Асабліва важная справа гэта засьмечаньне нашых канюшынаў канянкаю, якая зьяўляецца страшэнным шкоднікам у земляробстве. У бягучым годзе з зравідованых па Станцыі пробаў чырвонай канюшыны мела ў сабе 8.120 зярнятак канянкі ў 1 кілёграме, ў той час, як нормаю зьяўляюцца 10 зярнят на кілёграм.

Віленская Станцыя Ацэнкі Насеньня месьціцца ў Вільні на Закрэтнай вуліцы № 1 тэлеф. № 93.

Бязумоўна праца гэтае станцыі вельмі карысная для земляробаў і праз гэта яны павінны якнайшырэй яе працаю карыстацца.

У гэткім, напр., краі культурнага земляробства, як Данія, дзяржаўная Станцыя Ацэнкі Насеньня кантралюе ў парадку добравольнае умовы каля 2/3 коль-

касьці ўсяго ўжыванага насеньня, а ў іншых дзяржавах неабходнасьць кантролю прадаванага насеньня зьяўляецца агульна прызнанай.

---

## Гаспадарчыя парады.

### Як адвучаць карову, каб яна сябе ня выдойвала.

Часта здараецца, што каровы выдойваюць з сябе малако, з чым сялянам прыходзіцца вясьці барацьбу.

Самы распаўсюджаны ў нас спосаб барацьбы — гэта надзяваюць карове аброць, у намызьніку якой набіваюць жалезныя цьвікі. Калі карова падносіць морду да вымя, то цьвікі колюць яго і не даюць ссаць. Але гэта нядоўга. Карова скора ўхітраецца падкладаць галаву бокам і даставаць вымя. А часам здараецца і так, што карова пора цьвікамі вымя і ня кідае гэтага звычаю. Як бачым, гэты спосаб барацьбы з самавыдойваньнем—няпэўны. Самы лепшы спосаб—гэта зрабіць хамут, які-б не дазваляў ёй падгінаць галаву пад вымя. Хамут гэты робіцца так: бяруцца два абручы (большы і меншы) і надзяваюцца на шыю, пры чым меншы павінен быць каля самай галавы. У абручох загадзя робяцца дзіркі, у якія ўстаўляюцца палкі (па дзьве з боку). Усё гэта замацоўваецца. Уся прылада карове не перашкаджае скубсьці травы, ляжаць і г. д.

Гэту прыладу можа зрабіць кожны гаспадар.

### Як папярэдзіць заразьлівую хваробу ў жывёлы.

1. Ніколі адразу ня ставіць сьвежа - набытую жывёлу разам са сваімі, альбо выпускаць яе на агульную пашу, а абавязкова вытрымаць яе пад доглядам тыдні два, паставіўшы яе ясобна.

2. Сачыць за станам могілак для жывёлы, каб магілы не разрываліся сабакамі, рознымі зьвярамі і каб кожная памёршая жывёліна закопвалася на гэтых могілках на глыбіню ня менш як на 3 аршыны.

3. Сачыць за агульнымі вадапоямі і пашаю, каб туды не пападала хворая скаціна, альбо блізка ад іх не валяліся трупы памёршай жывёлы.

4. Сачыць за тым, каб на мяса забівалася толькі здаровая жывёла і каб прадавалася мяса, толькі агледжанае вэтэрынарам і заклейменае ім.

5. Кінуць зварочвацца за парадамі аб здароўі жывёлы да знахароў, канавалаў і інш. самавучак, а шукаць парады ў адукаваных спэцыялістых - вэтэрынараў.

6. Трымаць у чыстаце хлявы, асьвятляць іх, робячы вокны, і дбаць аб чыстаце паветра ў хлявох.

7. Добра карміць жывёлу і ня надта эксплёатаваць яе, даючы адпачынак, і трымаць даўжэй на вольным паветры.

### „Што пасееш, тое і пажнеш".

Гэта прыказка надта выразна гаворыць, што сеяць трэба толькі чыстым насеньнем. Аднак, ня ўсюды гэта выконваецца. Калі параўнаць чыстату насеньня нашага селяніна і насеньне гаспадароў другіх краін, то ў той час, калі ў Аўстрыі на 100 пудоў высеву прыпадае на долю сарнякоў толькі 20 ф., у Вэнгрыі — 2 пуды, на Украіне—4 пуды, у нас — 6 пудоў. А калі возьмем пад увагу, што сарняковыя расьліны надтра пладавітыя, (з аднаго каліва можа быць да 50 тыс. зярнят), то зразумела будзе шкадлівасьць сарнякоў у насеньні. З гэтых лічбаў відаць, што насеньне нашага селяніна надта дрэннае, бо ў ім многа сьмецьця і сарнякоў. Аднак, пры належнай ачыстцы можна насеньне ад іх зусім ачысьціць.

## 10 запаведзяў гаспадара.

1. Пераходзь ад трохпалёўкі да шматпалёўкі.
2. Паляпшай глебу ўгнаеньнем і апрацоўкай.
3. Ужывай для апрацоўкі зямлі добрыя прылады і машыны.
4. Падрыхтоўвай розныя кормы на полі.
5. Запасай рознастайныя спажыўныя прадукты на полі і ў гародзе.
6. Пашырай сяўбу прамысловых расьлін.
7. Пераходзь ад гадоўлі жывёлы, якая прыносіць толькі гной, да гадоўлі продукцыйнай.
8. Паляпшай харчаваньне рагатае жывёлы, даючы караньплоды, бульбу і моцны корм, асабліва жмыхі і муку бабовых расьлін.
9. Пушчай да сваіх кароў быкоў дарослых, не маладзей 1½ году, якія паходзяць ад добрых па ўдою і здаровых кароў.
10. Набывай на племя жывёлу толькі ад удойных кароў і добрых быкоў і ўхіляйся набываць маладняк з хворае стады.

---

### Цэны сельска - гаспадарчых прадуктау у Вільні.

*на 8-га Сакавіка.*

#### Цэны на збожжа.

Жыта ад 42 зл. 50 гр. да 43 зл. 50 гр. за 100 кілёгр.
Авёс ад 38 да 40 за. 100 кілёгр.
Ячмень браваровы ад 39 да 42 зл. за 100 кілёгр.
Ячмень на муку ад 33 да 35 зл. за кілёгр.
Атрубы жытнія ад 30 да 31 зл. за 100 кілёгр.
Бульба ад 8 зл. 50 гр. да 10 зл. за 100 кілёгр.

Цэны не спадаюць і стаяць моцна.

#### Цэны на насеньне.

Сарадэля ад 36 зл. да 38 зл. за 100 кілёгр.
Лубін ад 29 зл. да 32 зл. за 100 кілёгр.
Авёс на насеньне ад 44 зл. да 48 зл. у залежнасьці ад гатунку.

### Цэны на муку.

Мука пшанічная амэрыканская ад 90 гр. да 1 зл. за 1 кілёгр. у гурце; ад 1 зл. да 1 зл. 10 гр. у розьніцы.

Мука пшанічная краёвая ад 90 гр. да 1 зл. — 50%. ад 75 гр. да 85 гр. 60 % за 1 кілёгр.

Мука жытняя ад 60 гр. да 65 гр. — 50%, ад 55 гр. да 60 гр, — 60%, ад 40 гр. да 45 гр. непрасеяная за 1 кілёгр.

Мука бульбяная ад 80 гр. да 90 гр., грачаная ад 60 гр. да 70 гр., ячменная ад 55 да 60 гр. за 1 кілёгр.

### Цэны на сланіну.

I сорт ад 4 зл. да 4 зл. 20 гр. за 1 кілёгр.
II сорт ад 3 зл. 50 гр. да 4 зл. 80 гр.

### Цэны на хлеб.

Хлеб пітляваны першы сорт 60 — 65 гр. II сорт — 55 — 60 гр. за 1 кілёгр.

Хлеб просты чорны 40 — 45 гр. за 1 кілёгр.

### Цэны на крупы.

Крупы манныя—амэрыканскія 1 зл. 50 гр. да 1 зл. 60 гр. за 1 кілёгр.

Крупы манныя краёвыя 1 зл. 15 гр. да 1 зл. 25 гр. за 1 кілёгр.

Крупы грачаныя ад 80 да 90 гр. за 1 кілёгр.
Ячменныя крупы ад 80 да 95 гр. за кілёгр.

### Цэны на мяса.

Валовае ад 2 зл. да 2.20 гр. за 1 кілёгр.
Цяляціна ад 1 зл. 10 гр. да 1 зл. 50 гр. за 1 кілёгр.
Бараніна ад 2 зл. 20 гр. да 2 зл. 70 гр. за 1 кілёгр.
Сьвініна ад 2 зл. 50 гр. да 2 зл. 60 гр. за 1 кілёгр.

### Цэны на малочныя прадукты.

Малако ад 30 да 35 гр. за літр.
Сьмятана ад 2 зл. 20 гр. да 2 зл. 30 гр. за літр.
Тварог ад 1 зл. да 1 зл. 50 гр. за 1 кілёгр.
Масла несалёнае ад 7 зл. да 7 зл. 50 гр. за 1 кілёгр.
Масла салёнае ад 5 зл. 50 гр. да 6 зл. за 1 кілёгр.
Яйкі ад 1 зл. 80 гр. да 2 зл. за 10 штук.

---

# Палітычныя навіны.

*(За тыдзень)*

Апошнія весткі з Кітаю кажуць аб тым, што Кантонскія войскі пасунуліся зноў наперад і занялі важны стратэгічны пункт Сучау на чугунцы Нанкін-Шанхай. Пасьля гэтага на кітайскім фронце наступіла ціша. Але гэтая ціша—перад бураю. Кантонскае войска рыхтуецца да атакі на Шанхай, якая мусіць наступіць у хуткім часе і вырашыць далейшы лёс кітайскіх падзеяў.

Ангельскі ўрад пільна сочыць за кітайскімі падзеямі і стараецца за ўсялякую цану расколоць кітайскую партыю Гоміндан, якая кіруе кантонскім урадам. Лёндонскія газэты паведамляюць, што гэты раскол быццам ужо адбыўся і значная частка партыі Гоміндан пачынае выступаць процiў бальшавікоў. Калі-б гэтая вестка пацьвярдзілася, — то гэта азначала-б пачатак канца для бальшавіцкіх уплываў на ўсходзе.

Італія прызнала далучэньне Бэсарабіі да Румыніі. Як вядома, Бэсарабія (Кішынёў) да вайны належала да Расеі. Пасьля вайны румынская армія забрала Бэсарабію і да гэтага часу з-за Бэсарабіі ідуць спрэчкі паміж бальшавікамі і Румыніяй. Бальшавікі хочуць гэтую важную провінцыю забраць сабе, Румынія сабе. Справа заблуталася яшчэ і тым, што ўсё румынскае золата было вывезена падчас вайны ў Маскву і да гэтага часу каля 200.000.000 гэтага золата знаходзіцца ў руках бальшавікоў, якія хочуць і золата сабе пакінуць і Бэсарабію адабраць, і ні на якія перагаворы з Румыніяй ня ідуць. Прызнаньне Бэсарабіі за Румыніяй з боку Італіі мае тое значэньне, што калі з часам пачнецца вайсковая спрэчка — Італія стане на бок Румыніі і процiў Расеі. У зьвязку з істваваньнем польска-румынскага і румынска-францускага саюзу гэтае антыбальшавіцкае выступленьне Італіі набірае вагі і зроблена напэўна не без некаторага ўплыву Англіі.

Польска — Нямецкія адносіны пачынаюць патроху папраўляцца. Як ведама, пасьля зрыву гандлёвых перагавораў, Маршалак Пілсудскі вёў перагаворы з нямецкім паслом і стараўся залагодзіць конфлікт. Цяпер газэты прыносяць вестку, што міністар заграні чных справаў Польшчы п. Залескі спаткаўся ў Жэнэве з нямецкім міністрам Штрэзэманам і вёў з ім гутарку аб тым, каб ізноў пачаць гандлёвыя перагаворы.

Пасьля гэтае размовы, — міністар Залескі паведаміў прэсу, што справа польска-нямецкіх адносін стаіць на добрай дарозе і нармальныя гаспадарчыя і гандлёвыя зносіны паміж Нямеччынай і Польшчай павінны быць наладжаны.

*Аглядчык.*

---

# Мільён беларусаў бальшавікі выганяюць у Сыбір.

Цяжкое, проста бязвыхаднае палажэньне селяніна беларуса ў Беларускай Савецкай Рэспубліцы найлепш за ўсякія „агітацыі“ і прамовы малюе казённая мова пастановы Савету Народных Камісараў Б. С. С. Р. у Менску 27 сьнежня 1926 году. Падаем гэтую пастанову так, як яна выдрукавана ў бальшавіцкай газэце „Савецкая Беларусь“.

„Народны Камісарыят Земляробства БССР распрацаваў плян перасяленьня з межаў БССР, каб у бліжэйшыя 10 год перасяліць каля 1-га мільёна чалавек.

СНК згадзіўся з гэтым. Але, прымаючы пад увагу недастарчальную падрыхтоўку колёнізацыйнага фонду СССР і немагчымасьць поўнага фінансаваньня гэтага перасяленьня, СНК прыняў плян перасяленьня за межы БССР у 597 тысяч чалавек, разьмеркаваўшы перасяленьне так, каб у 1926-27 годзе можна было перасяліць 42 тысячы, у 1927-28 г. — 58 тысяч, у 1928-29 г. — 68 тысяч, а з 1929-30 г. да 1934-35 г. уключна — штогодна па 69 тысяч чалавек.

У адносінах фінансаваньня і арганізацыі перасяленьня СНК прыняў наступнае: разьмер крэдытаваньня, ліквідацыі маёмасьці тут на месцы прыняць ў сярэднім па 50 руб. на кожны двор, які мае перасяліцца, а ўсяго 5,319,500 руб. З прычыны таго, што Белсельбанк ня зможа правесьці гэта крэдытаваньне, пастаноўлена прасіць Саюзны СНК выдаць на гэту мэту патрэбныя крэдыты.

СНК прызнаў, што месцы для перасяленьня, якія вызначаюцца ў прытайгавай паласе Сыбіры і Далёкага Усходу, з доўгімі і сьцюдзёнымі зімамі дрэнна адбіваюцца на здароўі беларускага селяніна, пастаноўлена пра-

сіць перасяленчы к-т даць месца для перасяленцаў БССР таксама і ў лясных і ў лесастэпных раёнах".

Зьвяртаем увагу ўсяго беларускага сялянства на гэты страшны плян бальшавікоў. Ад'значаем, што ўсяго сялян-беларусаў пад Саветамі каля 4.000.000 Гэта значыць, што кожны чацьвёрты гаспадар мусіць навекі пакінуць сваю Бацькаўшчыну і шукаць сабе шчасьця „у прытайговай паласе са сьцюдзёнымі і доўгімі зімамі", — як поэтычна аб гэтым кажа пастанова. Ня кажам, што беларускаму селяніну тут добра. Але як добра беларусу ў саветах зразумее кожны, бо ад добрага і багатага жыцьця не паляціш туды, куды за часы царскія ссылалі толькі самых вялікіх праступнікаў.

## Новы каральна-скарбовы закон.

З новага году ўвайшоў у жыцьцё новы каральна-Скарбовы закон.

Закон гэны ў шмат чым адмяняе той парадак накладаньня караў, які дасюль меў месца, дзеля гэтага лічым патрэбным некалькі словаў сказаць аб ім, асабліва аб тых яго галінах, якія могуць зацікавіць нашых чытачоў. Перш за ўсё розьніца паміж даўнейшым і новым парадкам накладаньня караў палягае на тым, што паводлуг новага закону кожная справа аб праступку проці скарбовых законаў, калі гэтага будзе дамагацца абвінавачаны, бязумоўна пападзе на разгляд суда, а ня так, як было дасюль, калі іншыя справы да суда дайсьці не маглі і аканчальна вырашаліся скарбовымі вураднікамі. Ведама, што пры такім парадку ёсьць больш пэўнасьці, што невінаватага не засудзяць, бо суд лепш такі патрапіць разабраць справу, чымся вураднікі.

Другая розьніца, гэта тое, што новы каральна-скарбовы закон уводзіць так званае дабравольнае прыняцьце кары.

Дабравольнае прыняцьце кары палягае на тым, што абвінавачаны, да часу налажэньня кары, можа сам прызнаць сваю віну і адразу заплаціць той найменшы штраф, які пагражае за яго праступак, паводлуг закону, і адначасна згадзіцца на конфіскату затрыманых рэчавых доказаў праступку, калі конфіската гэна прадугледжана законам.

Дабравольнае прыняцьце кары можа быць прытарноўвана да такіх праступкаў, за якія не пагражае кара арышту, а толькі штраф да аднэй тысячы злотых.

Трэцяя асаблівасьць у гэным законе — гэта тое, што супольнікі процізаконнага праступку, а таксама намоўцы і памочнікі, лічацца так сама вінаватымі, як і сам праступнік; што датычыць караў за розныя праступкі, то мусім сказаць, што ў адносінах да тых караў, якія накладаліся старымі каральна-скарбовымі законамі, яны шмат у чым зьмяніліся: за адны праступкі ён карае мацней, як закон даўнейшы, за іншыя—лягчэй.

За гадоўлю табакі без дазволу скарбовай улады, новы закон назначае куды большую кару, чым даўнейшы, бо да 20 злотых штрафу за кожны квадратны мэтр занятага расьлінамі абшару, незалежна ад таго, ці табака вырасла з насеньня, ці з расады. Апрача таго ўся табака падлягае зьніштажэньню. Кара гэта накладаецца і тады, калі табака вырасла самасейкай.

За патайны выраб самагонкі новы закон карае грашыма ад тысячы да дзесяцёх тысячаў злотых, апроч таго арыштам ад аднаго месяца да шасьцёх.

А калі будзе даказана, што самагонка выраблялася не на свае толькі патрэбы, а на продаж, дык тады закон карае штрафам ад 10 тысячаў да 500 тысячаў злотых і вастрогам ад шасьцёх месяцаў да двух гадоў.

## СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

Марыська са сваім жаніхом Ігнатам ішла да споведзі.

Пробашч сказаў, што бяз споведзі шлюбу ня дасьць, а тутака фэст здарыўся, і шлюб ужо недалёка— адно пры адным: сабраліся і пайшлі.

Любіла Марыська Ігната, ах, як любіла! Бо прыгожы быў дзяцюк, дужы як малады дубок, і любіў Марыську.

Як выйшлі з вёскі, ня вытрымала Марыська, кінулася на шыю Ігнату і моцна - моцна пацалавала яго, засаромілася, пачырванела і пачала ўцякаць.

Толькі прад касьцёлам дагнаў яе Ігнат. У касьцёле фэст, народу сабралася шмат, ледзь даціснуліся да пробашча, сталі, Марыська ўперадзе — за ёю Ігнат. Пачакаўшы трошку, прыйшоў чарод Марыські. Яна, як мае быць, выказала свае грахі.

— А прыпомні, дзетачка, можа сягоньня чым абразіла Бога? — пытае пробашч.

— Але! — ўсхапянулася Марыська, — амаль не забылася; саграшыла, войча духоўны!

— Як - жаж ты саграшыла?

— Ігната пацалавала, — кажа Марыська.

— Што, што? — пытае пробашч,—кажы грамчэй, бо добра ня чую (стары пробашч быў трошкі глухаваты).

— Ігната пацалавала! — бразнула на ўвесь голас Марыська.

— А колькі разоў? — дапытваўся пробашч.

— Два разы, войча духоўны.

Ігнат, стоячы тут-жа за Марыськай, чуў добра гэную споведзь яе.

— Марыська, як-жа ты кажаш, што два разы, калі толькі адзін раз пацалавала. На споведзі брахаць нельга! — адазваўся ззаду Ігнат, пацягнуўшы яе за спадніцу.

Марыська адвярнулася дый кажа:

— Бо назад ідучы таксама пацалую, вось і будзе два разы!

*Д. П.*

— Тата, ў якім горадзе ты нарадзіўся?
— У Вільні, сыночку,
— А мама ў якім горадзе нарадзілася?
— У Наваградку.
— А дзе я?
— У Горадне, дзетачка.
— Глядзі! аж у Горадне.
І як гэта мы цяперака сабраліся ў Ашмяне?

# Аб усім патроху.

### Як зладзеі абкрадаюць сялян.

Апошнімі часамі варшаўскія і віленскія газэты апісваюць новы спосаб, якім карыстаюцца зладзеі, каб абкрадаць людзей, а асабліва сялян. Спосаб гэты палягае на тым, што злодзей такі ў цягніку, ці на чугуначнай станцыі заводзіць знаёмасьць з чалавекам, якога мае на мэце абакрасьці, і частуе яго папіросамі, набітымі з дадаткам нейкага дурману, так што калі чалавек выкурыць іх, дык траціць прытомнасьць і ўпадае у нейкае забыцьцё, з чаго зладзеі карыстаюцца і забраўшы ад свае́й ахвяры ўсё, што мае для іх якую-небудзь вартасьць, самі ўцякаюць. Калі ў кумпаніі з мужыкамі едуць жанчыны, якія табакі ня кураць, дык яны частуюць іх цукеркамі з дурманом; ад цукеркаў гэных чалавек траціць прытомнасьць так сама, як і ад іхніх папіросаў.

### „Гаспадары“ Савецкай Беларусі.

У месяцы студні г. г. адбыўся ў Менску зьезд так зв. камуністычнае партыі Беларусі, які выбраў новых „гаспадароў“ Усходняе Беларусі,— ці так званы Цэнтральны Камітэт. Дык вось у склад сэкрэтарыяту гэтага ЦК, які фактычна кіруе ўсім савецкім жыцьцём БСРР не ўвайшоў а ніводзін Беларус. Вось прозьвішчы гэтых камісараў: Крыніцкі, Галадзед, Рыжоў, Абрамчук і Абрамовіч. Ніводзін з гэтых камісараў ня умеець нават гаварыць пабеларуску.

### Людзям — абмаладжэньне, а малпам гора.

Як вядома, навука стараецца знайсьці спосаб абмаладжаць старых людзей. У гэтым кірунку шмат чаго зроблена ў Францыі і ў Злучаных Штатах (Амэрыцы), пры чым для абмаладжэньня ўжываюцца маладыя малпы. У іх вырэзваюць некаторыя часьці і прышчапляюць іх старому чалавеку так, як агароднік прышчапляе добрую грушку да дзічкі. Але тутака наадварот — дзічку (малпу) прышчапляюць чалавеку. Адно гора гэта ў тым, што ёсьць шмат ахвотнікаў паналадзець, — а малпы дастаць трудна. Дык вось амэрыканцы надумаліся адправіць у Афрыку і Бразылію цэлую армію паляўнічых, якія павінны налавіць ня менш як 35.000 штук маладых малпаў. Для гэтых малпаў каля Нью-Іорку будуецца цэлы горад, у якім малпы будуць жыць і чакаць на тое, пакуль іх будуць забіваць, каб выкарыстаць для абмаладжэньня старцаў. Адным словам чалавек будзе маладзець, а малпам ад гэтага адно гора.

### Колькі на сьвеце радыёвяшчальных станцыяў.

Цяпер на ўсім сьвеце ёсьць больш як 900 радыёвяшчальных станцыяў. Апрача таго, у працэсе пабудоўкі знаходзіцца больш як 100 станцыяў.

Са ўсяго ліку станцыяў на долю Амэрыкі прыпадае 500 станцыяў. Больш як 10 станцыяў маюць наступныя краіны: Нямеччына, Аўстрыя, Швэцыя, Англія, Францыя, Куба, Бразылія, Мэксыка і Аргэнтына.

У Кітаі і Японіі справа радыёвяшчаньня знаходзіцца ў першапачатковым стане.

### Удушлівыя газы ў турмах.

У амэрыканскіх турмах дзеля адхіленьня частых паўстаньняў зьняволеных зроблены спэцыяльныя газавыя адводы, праведзеныя да кожнай камэры. Цэнтр упраўленьня знаходзіцца ў кабінэце начальніка турмы. Націснуўшы кнопку, можна напоўніць усю камэру ўдушлівымі газамі; кожны наглядчык турмы мае маскубясьпечнік.

### Колькі усяго жыхароў у Б. С. С. Р.

Бяз Гомельскага і Рэчыцкага акругоў у так званай Б.С.С.Р. паводлуг перапісі 1926 году лічылася ўсяго 4.314.943 чал. У Гомельшчыне лічыцца 105.903 мястовага жыхарства і 301.716 вясковага. У Рэчыцкім павеце ў горадзе 30.425 і вясковага 224.340. Усяго такім чынам у Б. С. С. Р. цяпер лічыцца 4.974.327 чалавек—блізка 5.000.000.

### Як змагацца з заразьлівымі хваробамі.

З прычыны таго, што заразьлівыя хваробы надзвычайна хутка пашыраюцца, то зразумела, што барацьба з імі павінна быць накіравана перш за ўсё ў бок спыненьня пашырэньня іх. Для гэтага, калі пакажацца на жывёліне хвароба, якая будзе выклікаць падазроннасьць на заразьлівую, то канечна патрэбна:

1) аддзяліць здаровых ад хворых, перавёўшы з таго хлява, дзе захварэла жывёліна, усю на погляд здаровую скаціну;

2) паіць хворую жывёліну з асобнага вядра, карміць яе асобна ад другіх і даглядаць яе асобнаму чалавеку;

3) безадкладна зьвярнуцца да бліжэйшага вэтэрынарнага дохтара, або фэльчара, які, прыехаўшы на месца, раскажа, як змагацца з хваробаю і якія спосабы ўжываць, каб не дапусьціць яе пашырэньня.

### Як трэба тачыць косы і нажы.

Каб скарэй і лепш натачыць касу альбо нож, у Францыі касары ў часе абеду кладуць косы ў салёную ваду; пасьля гэтага косы хутка навострываюцца і ня скора тупеюць.

---

### Папраўка.

У № 1 трапіліся наступныя прыкрыя памылкі:

а) У перадавым артыкуле, на другой старонцы, другая шпальта, 27 радок, надрукована: „з мэтай пашырэньня эканамічных ідэяў“, а трэба чытаць: „з мэтай пашырэньня камуністычных ідэяў“; у артыкуле „Кірыліца ці Лацініка“ на 8 старонцы, першая шпальта, другі радок, надрукована: „Найразумнейшыя культурнікі Заходу“ а трэба чытаць: „найразумнейшыя культурнікі Усходу“.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ Выд. Т-ва „Родоń“ Друк. „Рах“, вул. Сьв. Ігната 5.